# Тыднёвік Магілёўскі

Тыднёвік Магілёўскі

№ 1 (65) 14-20 студзеня 2000 г. Кошт 50 руб.


ЭПІДЭМІЯ?

## Чым будзем ратавацца



*Наша вобласьць знаходзіцца на парозе эпідэміі грыпу, якая насоўваецца з Заходняй Эўропы. Успышку хваробы мэдыкі прагназуюць напрыканцы бягучага месяца альбо на пачатку лютага. Да гэтага часу ў мэдычных установах вобласьці і аптэках можа не аказацца патрэбных лекаў у дастатковай колькасьці. Рэч у тым, што наша мэдыцына завінавацілася вытворчаму аб'яднаньню "Фармацыя" 169 мільёнаў дэнамінаваных рублёў. Найбольшыя пазыкі – ў Магілёва (50 мільёнаў) і Бабруйска (70 мільёнаў). У гэтай сытуацыі дастаўка лекаў і прэпаратаў у мэдычныя ўстановы і аптэкі можа стаць надта праблематычнай.*

**Уласная інфармацыя**

ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

## Так прыемна сказаць: Добры дзень...

Прайшло нямала часу з дня нашага апошняга вітаньня. Мы былі ўпэўненыя, калі летам сьвядома разьвітваліся з вамі да восені, што слова стрымаем. Аднак сустракаемся зімой... Мы перакананыя ў тым, што любы разумны чалавек ня горш за нас ведае, што ў шэрагу сфэраў, якія цяперашні рэжым не любіць, недзяржаўныя сродкі масавае інфармацыі займаюць ці ня першае месца.

Хаця б каротка ўзгадаем леташнюю хроніку вайны, якую ўлада вяла супраць вольных СМІ. Па-за судовым разглядам, праз дырэктыўнае распараджэньне чыноўнікаў было спыненае выданьне газэты "Свабода". Пазьней пад націскам непераноснага штрафу зьнікла яе пераемніца – газэта "Навіны". Пад шыльду "Белорусской деловой газеты" вымушаны быў схавацца ад закрыцьця штотыднёвік "Имя". Ледзь перажылі фінансовыя ўдары (пад выглядам штрафаў) гарадзенская "Пагоня", "Барысаўскія навіны". Пазбавілі рэгістрацыі аршанскую "Куцейку". Да чарнаты зьбегліся неспрыяльныя хмары над незалежнай газэткай "Шклоўскія навіны". Паслухмяныя Лукашэнку дэпутаты Нацыянальнага сходу (які Эўраструктурамі й ЗША не прызнаецца, дарэчы, за легітымны заканадаўчы орган) прынялі шэраг паправак да Закону аб друку, якія пагоршылі стан недзяржаўнай прэсы да апошняй, так бы мовіць, рысы...

"Тыднёвік" ня быў, зразумела, выключэньнем **(пра адну з непрыемнасьцяў падрабязна – на 6-й і 7-й старонках)**. А колькі было іншых і, магчыма, яшчэ чакае нас наперадзе, – можна толькі прадчуваць: ведаем, дзе жывем.

Адно суцяшае і бянтэжыць(!) адначасова: таксама цяжка жывуць сёньня ў краіне ўсе, хто не падабаецца ўладзе. Такіх занадта многа, побач зь незалежнымі журналістамі гэта прадпрымальнікі і прыватнікі, свабодныя прафсаюзы, дэмакратычныя палітыкі і цэлыя партыі, грамадзкія актывісты і незалежныя суполкі... Не нашмат лепш за іх пачуваюць сябе і тыя, хто нібыта не выклікае ва ўлады інстынктыўнага непрыязьця, але нэрвуе сваімі праблемамі і прэтэнзіямі – прамысловыя рабочыя, настаўнікі, вяскоўцы, ахоўнікі здароўя, пэнсіянэры...

Разам з фінансова-палітычнымі перашкодамі ў рабоце "Тыднёвіка" летнія канікулы мы абумовілі таксама тым, што нічога істотнага, што б патрабавала менавіта нашага інфармаваньня, нашай аналітыкі і ацэнкі, у краіне ў другой палове году не адбудзецца. Прадбачаньне зьбылося. Нямала істотнага здарылася ў сьвеце, у суседніх краінах, у Расеі. А ўсе высілкі нашай улады скіраваныя былі на "інтэграцыйныя спэктаклі", барацьбу з усім нармальным, сьветлым і разумным, на адміністратыўнае зьнішчэньне згуртаванай апазыцыі. Хіба ж гэта навіна?..

Аднак жа гэтымі высілкамі грамадзтва за апошні час яшчэ больш прыведзенае ў стан абыякавасьці і пакорлівага чаканьня няведама чаго. Нашае вяртаньне на інфармацыйную прастору мае на мэце стаць для людзей, як гэта і было да перапынку, шчырым суразмоўцам, сумленным інфарматарам, аб'ектыўным аналітыкам. Ці не замнога? Мы ж маем на ўвазе, што рабіць гэта будзем не аднаасобна, а разам з вамі. А разам мы здольныя вырашыць і не такія задачы.

Мы сумавалі бяз вас, нашых чытачоў, дарадцаў і аўтараў. Ведаем, што і вам таксама не даставала роднага слова, шчырай гаворкі, сумленнай інфармацыі – ўсяго таго, што рэдакцыя "ТМ" лічыць за свой першасны абавязак і галоўны зьмест працы.

Вы ўявіць сабе не можаце, як прыемна нарэшце ізноў сказаць вам: Добры дзень, будзьма разам!

***Рэдакцыя "ТМ"***

## 1999-2000: НА СКРЫЖАВАНЬНІ ЧАСОЎ

### Рэйтынг-99 паводле "ТМ"

Станоўчыя падзеі

***– Выхад на волю двойчы Героя сацыялістычнай працы, старшыні калгаса "Рассвет", а потым аднайменнага Акцыянэрнага сельскагаспадарчага прадпрыемства Васіля Канстанцінавіча Старавойтава.***

***– Непахіснасьць лідэраў БНФ Зянона Пазьняка і Вінцука Вячоркі, абодвух плыняў адраджэнскага Руху ў адстойваньні сваіх перакананьняў і веры – кожным паасобку і на сваім баку, але на агульнай плятформе незалежнасьці Беларусі.***

***– Увядзеньне рыначнага курсу беларускага рубля і вольнага абмену валюты.***

Адмоўныя падзеі

***– Трагэдыя на станцыі мэтро "Няміга", у выніку якой загінула 52 маладых чалавека. (Грамадзкая камісія па расьсьледваньні лічыць гэтую лічбу заніжанай).***

***– Бяздарны правал пад кіраўніцтвам старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага і старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктара Ганчара травеньскай кампаніі па выбарах прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь.***

***– Захады адміністрацыі, ураду, нацыянальнага сходу краіны да ўтварэньня і ўваходу ў аб'яднаную дзяржаву Расея-Беларусь.***

***– Раптоўнае зьнікненьне вядомых дзеячаў апазыцыі, палітычны перасьлед праціўнікаў рэжыму пад выглядам крымінальных справаў.***

Адыходзіць год, надыходзіць новы…Звычайны бег часу. Але сёньня мы глядзім на гэтую зьмену крышачку інакш. Прыйшоў апошні год дваццатага стагодзьдзя: мы крочым у новую эру. І азіраючыся на год мінулы, міжволі азіраем увесь абсяг стагодзьдзя, задумваемся над яго гісторыяй. Нам яшчэ прыйдзецца больш асэнсавана зразумець, што адбывалася, што адбылося. Але ж і сёньняшнія думкі ня згубім, вернемся да іх пазьней й пабачым, пра што ж мы думалі, марылі, што ўзгадвалі на зломе эпох.

Рэдакцыя зьвярнулася да некаторых сябраў-землякоў з просьбай распавесьці аб тым, што закранула кожнага у 1999 годзе і чаго чакаць, на іх думку, ад года 2000.

**(Працяг анкеты чытайце на 2, 3 і 8 старонках)**

## Пашанцуе тым хто патрапіць

11 студзеня ў памяшканьні ЗАТ "Тэхнапарк" прайшла прэзэнтацыя Праграмы стажыровак у ЗША Community Connections для бізнэсоўцаў і грамадзкіх лідэраў.

Мэтаю Праграмы, якая фінансуецца ўрадам ЗША, ёсьць паглыбленьне паразуменьня між народамі. Бізнэсоўцы стажыруюцца ў кампаніях адпаведнага іх дзейнасьці профілю, дзе яны знаёмяцца з тэхнічным і арганізацыйным досьведам амэрыканскага бізнэсу.

Грамадзкія дзеячы бяруць удзел у розных сэмінарах, канфэрэнцыях, сустрэчах, у тым ліку і з афіцыйнымі асобамі, знаёмяцца з дзейнасьцю амэрыканскіх грамадзкіх аб'яднаньняў. Прымаюць іх амэрыканскія арганізацыі і грамадзяне, якія і забясьпечваюць пражываньне пасланцоў у амэрыканскіх сем'ях.

Дэлегацыі ад аднаго рэгіёна накіроўваюцца ў адны і тыя ж гарады. Гэткім чынам закладваецца падмурак будучых кантактаў паміж гарадамі.

На Беларусі Праграма працуе ўжо тры гады. Што тычыцца Магілёва, дык мінулым годам дзесяць чалавек: пяць прадстаўнікоў бізнэсу і пяць грамадзкіх дзеячоў пабывалі ў Злучаных Штатах. Плянуецца гэткая ж колькасьць і ў 2000-м.

***Валадар ЦУРПАНАЎ, карэспандэнт "ТМ"***

